# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

*Максім Багдановіч (1891-1991)*

№ 386 Студзень 1992
Год. выд. XLI

**BIELARUS** / BELARUSAN Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.50


## ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЭРЫКІ ПРЫЗНАЮЦЬ НЕЗАЛЕЖНУЮ ДЗЯРЖАВУ — РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ

**Вашынгтон, ЗША, 25 сьнежня 1991 г.**

**Прэзыдэнт ЗША, Джордж Буш — вытрымкі з прамовы.**

... за некалькі апошніх месяцаў Вы і я былі сьветкамі аднэй з найбольшых драмаў 20-га стагодзьдзя — гістарычнага й рэвалюцыйнага пераўтварэньня таталітарнае дыктатуры — Савецкага Саюзу — ды вызваленьня ягоных народаў... у часе калі мы адзначаем Каляды — дзень міру й надзеі — падумаем, што гэтыя падзеі азначаюць для нас, амэрыканцаў...

... Панад 40 гадоў, Злучаныя Штаты Амэрыкі былі ў авангардзе змаганьня Захаду супрць камунізму, які пагражаў нашым нацыянальным вартасьцям... Эпоха канфрантацыі з камунізмам мінула ... Новыя незалежныя дзяржавы паўстаюць на развалінах Савецкае імпэрыі. У мінулую нядзелю гэтыя былыя рэспублікі стварылі новую дзяржаву — Супольнасьць Незалежных Дзяржаваў. Гэты акт закончвае існаваньне Савецкага Саюзу...

Злучаныя Штаты вітаюць і падтрымліваюць гістарычны выбар свабоды новымі дзяржавамі.

Ня гледзячы на магчымую неўстаяляваную палітычную каньюнктуру і хаос — падзеі гэтыя яўна спрыяюць палітычным паглядам Амэрыкі.

І сягоньня, базуючыся на ўзятых новымі дзяржавамі абавязках і гарантыях дадзеных нам некаторымі з новых дзяржаваў...

Злучаныя Штаты Амэрыкі прызнаюць і вітаюць паўстаньне вольнае, незалежнае й дэмакратычае Расеі...

Злучаныя Штаты Амэрыкі таксама вызнаюць незалежнасьць Украіны, Арменіі, Казахстану, БЕЛАРУСІ і Кіргізстану, дзяржаваў, якія зрабілі нам спэцыфічныя забавязаньні. Мы зробім неабходныя крокі ўстанаўленьня дыпляматычных зьвязкаў з гэтымі дзяржавамі ды навязаньня новых сувязяў зь імі.

---

**Прэзыдэнту ЗША Джорджу Бушу,**
**Белы Дом.**
**Вашынгтон, Дыстрыкт Калюмбія**

Высланыя тэлеграмы й лісты з нагоды прызнаньня Злучанымі Штатамі незалежнасьці Рэспублікі Беларусь:

*Прымеце глыбокую ўдзячнасьць* **Беларуска Амэрыканскага Задзіночаньня** *за прызнаньне незалежнасьці Беларусі ды за Вашыя крокі ў кірунку навязаньня дыплёматычных дачыненьняў зь Менскам. Беларусы-амэрыканцы пераканаfamy, што Вашае рашэньне вельмі значна ўмацуе свабоду, дэмакратыю ды эканамічнае аднаўленьне Беларусі.*

**З Новым Годам, спадар Прэзыдэнт,**
**Антон Шукелойць, старшыня Беларуска Амэрыканскага Задзіночаньня**

---

«... Я пішу Вам, **спадар Прэзыдэнт,** каб выказаць шчырую падзяку ад імя **Беларуска Амэрыканскае Грамады ў Чыкага** за прызнаньне Беларусі, як і іншых былых савецкіх рэспублікаў новымі незалежнымі дзяржавамі...

**З глыбокай пашанай,**
**Вера Рамук, сакратар Беларускага Каарданацыйнага Камітэту ў Чыкага**

---

**Дарагі спадар Прэзыдэнт!**

Мы Беларусы-Амэрыканцы ў раёне заліву Сан Францыска выказваем Вам вялікую падзяку за Вашае рашэньне прызнаць Беларусь Незалежнай дзяржавай. Хай пануе свабода!

**З глыбокай пашанай,**
**Люся Бугарчова, Аддзел БАЗА ў Каліфорніі, г. Сан Францыска**

---

Гэтым мы жадаем выказаць нашую глыбокую ўдзячнасьць за Вашае рашэньне — зрабіць поўнае дыпляматычнае прызнаньне Беларусі.

**Дай Бог Вам, спадар Прэзыдэнт, і спадарыні Буш, добрага здароўя!**
**Язэп Арцюх, Belarusian Review (Беларускі Агляд)**

---

**Арганізацыя Беларуска Амэрыканскае Моладзі вітае Вас, спадар Прэзыдэнт,** зь гістарычнай падзеяй — дыплёматычным прызнаньнем Рэспублікі Беларусь. Мы маладыя амэрыканцы беларускага паходжаньня вельмі ганарымся гэтай падзеяй, ўдзячныя Вам за дынамічныя крокі ды ўпэўненыя, што дачыненьні Беларусі з Амэрыкай дапамогуць як дэмакратызацыі гэтак і эканамічнаму прагрэсу краіны.

**Др. Юры Кіпель старшыня Арганізацыі Беларуска Амэрыканскае Моладзі**

---

Ад імя **Фэдэрацыі Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў** перасылаю Вам, **спадар Прэзыдэнт,** найшчырэйшую падзяку за Вашае хуткае рашэньне прызнаць незалежнасьць Рэспублікі Беларусь ды за гатоўнасьць дапамагаць Беларускаму народу на шляху дэмакратызацыі.

**З глыбокай пашанай,**
**Васіль Мельяновіч, старшыня Фэдэрацыі Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў**

---

*Паважаны Спадар Прэзыдэнт!*

Ад імя **Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі,** які рэпрэзантуе Амэрыканцаў беларускага паходжаньня, што жывуць у розных частках Злучаных Штатаў, я хачу выказаць Вам сваю ўдзячнасьць за афіцыйнае прызнаньне незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Беларускі Кангрэсавы Камітэт хваліць Вашу кіруючую ролю ў гэтай важнай справе. Мы верым, што прызнаньне Беларусі стане стымулам для беларускага народу ў разбудове вольных і дэмакратычных інстытутаў, да разьвіцьця якіх ён імкнуўся напрацягу доўгіх гадоў.

***З пашанаю да Вас,***
***шчыразычлівы***
***Расьціслаў Завістовіч Старшыня***

---

**Высокапаважаны спадар Прэзыдэнт!**

Ад імя сяброў **Беларуска Амэрыканскага Аб'еднаньня ў штаце Нью-Ёрк** ды таксама нашых землякоў на Беларусі выказваю Вам шчырую падзяку за хуткае прызнаньне незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. Мы гэтаксама вельмі ўдзячныя Вам за ахвяраваную Беларускаму народу гуманітарную дапамогу.

**Няхай дапаможа Вам Бог ды**
**Божа Благаславі Амэрыку.**

**Канстанцін Мерляк, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня ў Нью-Ёрку**

---

**Дарагі спадар Прэзыдэнт!**

Ад імя Амэрыканцаў Беларускага паходжаньня я хачу выказаць вялікую падзяку й задаваленьне з Вашае дэцызыі прызнаць Беларусь Незалежнай дзяржавай.

*З Богам ды ўсяго найлепшага Вам і Вашай сям'і.*
*З глыбокай пашанай*
*Вітаўт Тумаш, старшыня Беларуска Амэрыканскага Задзіночаньня ў Каліфорніі.*

---

**Высокапаважаны спадар Прэзыдэнт!**

*Мы ўдзячныя Вам ды вітаем Вас з важным рашэньнем — дыплёматычным прызнаньнем Беларускае Дзяржаўнасьці. Панад паўмільёну Беларусаў-Амэрыканцаў падтрымвае гэты гістарычны крок ды выказвае надзею, што з амэрыканскай дапамогай Беларусь увойдзе ў нармальнае рэчышча жыцьцёвага курсу ды далучыцца да сям'і дэмакратычных дзяржаваў.*

**Др. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска с перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, прадпісаныя прозьвічам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## АБ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ДЗЯРЖАЎНЫХ ДАЧЫНЕНЬНЯХ

Прызнаньне Злучанымі Штатамі Амэрыкі незалежнасьці рэспублікі Беларусь — бясспрэчна вельмі важная падзея. Але гэты акт — вынік дзейнасьці нацыянальнага руху на даўгім шляху нацыянальна-дзяржаўніцкага адраджэньня.

Першыя кантакты беларускіх нацыянальных дзеячоў (А. Уласаў і інш.) з прадстаўнікамі амэрыканскіх урадавых колаў адбыліся напярэдадні Першае Сусьветнае Вайны, калі афіцыйная амэрыканская дэлегацыя адведвала Беларусь, каб азнаёміцца з краем, які ў той час даваў гэтульські эмігрантаў у Амэрыку. Аднак, у тым часе наш нацыянальны патэнцыял быў слабы і скарыстаць палітычна з тых кантактаў мы не маглі.

У рэвалюцыйныя й парэвалюцыйныя гады, 1917-20, палітычныя кантакты з амэрыканскімі прадстаўнікамі ў Горадні й Парыжы навязалі дзеячы Ураду БНР. Аднак-ж палітычныя падзеі разгарнуліся так, што Урад БНР выехаў на эміграцыю і кантакты з амэрыканцамі спыніліся.

Вельмі рэальнае супрацоўніцтва паміж амэрыканцамі і адміністрацыяй тагачаснае Савецкае Беларусі (ужываўся тэрмін — Радавая Беларусь) навязалася ў гадох 1921-1923, калі на Беларусі дзейла Амэрыканская Арганізацыя Дапамогі, створаная Амэрыканскім Кангрэсам арганізацыя з функцыямі дзяржаўнага воргану. Як зазначаюць дасьледнікі таго эпізоду, амэрыканскія прадстаўнікі на Беларусі былі тады гатовыя да шырэйшага супрацоўніцтва і палітычнага прызнаньня Беларусі, але яны хутка пераканаліся, што тагачасны беларускі урадавы камплекс быў цалкам залежны ад Масквы дык далей дапамогі, амэрыканская ініцыятыва і ня крочыла.

Новая фаза дзяржаўных дачыненьняў паміж Амэрыкай і Беларусьсю ў форме БССР адчынілася ў 1945 годзе, калі БССР сталася членам-закладчыкам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Шмат хто з амэрыканскіх законадаўцаў і ў Сэнаце і ў Кангрэсе ўбачылі ў гэтым магчымасьць для навязаньня шырэйшых палітычныях дачыненьняў зь Беларусьсю. У пачатку-сярэдзіне пацьдзесятых гадоў у Вашынгтоне адбываліся дыскусіі, уносіліся рэзалюцыі, каб навязаць безпасярэднія дыпляматычныя дачыненьні з БССР. Аднак любая ініцыятыва, ня гледзячы зь якога боку яна выходзіла, трапляла на перашкоду: Масква не дазваляла ніякае незалежнае дзейнасьці для Савецкае Беларусі.

Нават падарожжа прэзыдэнта Рычарда Ніксана у 1973 годзе ў Менск, у рэспубліку, якая нібы мела статус незалежнае дзяржавы, трэба было ўзгадняць праз Маскву.

У мінулым годзе, дзякуючы краху камуністычна-сацыялістычнае утапічнае дзяржаўнае сыстэмы ва ўсіх яе адцінках — эканамічным, сацыяльным і г.д., Беларусь і іншыя паняволеныя народы змаглі заявіць аб жаданьні жыць незалежным жыцьцём, быць палітычна незалежнымі. Амэрыка й Заходнія Дэмакратыі пайшлі гэтаму жаданьню насустрач, задавальняючы гэтым і даўгагадовыя імкненьні нацыянальных рухаў.

І што-ж атрымоўваецца? Рэспубліка Беларусь не выглядае, каб сьпяшалася высылаць сваіх амбасадараў, наладжваць эканамічныя сувязі, станавіцца палітычна незалежнай. Кіраўнічыя ворганы рэспублікі — Вярхоўны Савет — ігнаруюць і дэклярацыю аб незалежнасьці, і закон аб мове і нагул беларусізацыю краіны. Дахозьдзіць, прост да абразьлівых сытуацыяў: беларусам у Злучаных Штатах рэкамэндуюць зварачацца ў маскоўскае прадстаўніцтва для атрыманьня візы ў Беларусь.

Тлумачэньне гэткаму ненармальнаму стану можа быць толькі адназначнае: замаскаваны камуністычны траянскі конь кіраўніцтва і Вярхоўнага Савету рэспублікі Беларусь вядзе старую расейска-цэнтралістычную палітыку — ніякага адддзяленьня Беларусі ад «матушкі Расеі» быць ня можа. Наколькі абставіны вымушаюць, можна правесьці законы, рабіць выгляд, ладзіць незалежніцкія цырымоніі, прыняць нацыянальны сьцяг і г.д. — аднак не мяняць зьместу. У Беларусі камуністам гэта, нажаль, ўдаецца. Да часу, пакуль у Вярхоўным Савеце і ў іншых кіраўнічых ворганах ды міністэрствах засядаюць «старыя праверавыя таварышы» з душой парабка, ні прайваў сапраўднае дзяржаўніцкае незалежнасьці, ні эканамічнае стабілізацыі, ні беларусізацыі рэспублікі — нельга спадзявацца.

### НОВЫ ЗАКОН АБ СЬВЯТАХ

Парлямэнт Рэспублікі Беларусь у сьнежані летась прыняў закон, паводля якога 25 сьнежаня, дзень Каталіцкіх Калядаў, гэтак і 7-га студзеня — дзень Праваслаўных Калядаў, абвяшчаюцца сьвяточнымі, непрацоўнымі днямі.

Гэтаксама будуць адзначацца два Вялікодныя Сьвяты ды сьвяточным днём будзе Сьвята Дзядоў, 2-га лістапада.

**Скасаванае адзначэньне угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, але будуць адзначацца 1-га Траўня, як Дзень працоўных ды 8-га Сакавіка, як Міжнародны Дзень Жанчыны.**

### КАНЦЭРН КРУПА ПАМАГАЕ БЕЛАРУСКІМ ДЗЕЦЯМ

Як паведамляе ворган сусьветнага Індустрыяльнага канцэрну Крупа — "Kruppaktuelle" за сьнежаць мінулага году, у горадзе Эссэне, Нямеччына, гасьцявалі беларускія дзеці з Магілёва. Група з 20-х дзяцей і настаўнікаў адпачывалі у розных курортных мясцовасьцях ды знаёміліся зь нямецкімі дзецьмі. **Беларускія дзеці, у прыгожых нацыянальных касьцюмах, далі некалькі паказаў мастацкай самадзейнасьці.**

## ВАЙСКОВЫЯ СПРАВЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Агенства ТАСС, 3-га студзеня сёлета, падало, што галоўнакамандуючы войскамі Супольнасьці Незалежных Дзяржаваў, маршал Яўген Шапашнікаў і старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі, Станіслаў Шушкевіч, падпісалі ўмову, паводля якое нуклеарная зброя на тэрыторыі Беларусі будзе знаходзіцца пад аб'яднаным камандваньнем Дзяржаваў Супольнасьці. Ужыцьцё гэтае зброі можа быць зрэалізаванае толькі із згодай кіраўніцтва Рэспублікі.

У паведамленьні гэтаксама адзначана, ды гэта падцьвердзіў маршал Шапашнікаў, што Рэспубліка Беларусь будзе мець свае войска.

Першым міністрам вайсковых справаў Беларусі зацьверджаны Вярхоўным Саветам гэнэрал-ляйтэнант Пётра Чаус. Вайсковы міністар паходзіць з Гомельшчыны. Служыў у розных раёнах былога Савецкага Саюзу; апошняя пасада ягоная — кіраўнік Штабу Прыбалтыцкае Ваеннае Акругі.

Увага, Канада і Аўстралія!
Просім грошы перасылаць міжнародным паштовым перакладам, што аблегчыць усю грашовую транзакцыю.
Дзякуем! Адміністрацыя.

## ДЗЯРЖАЎНЫ САКРАТАР ДЖЭЙМС БЭЙКЕР У МЕНСКУ



*Джэймс Бэйкер (пасярэдзіне) на Менскім лётнішчы. Зьлева Бэйкера міністр замежных справаў Рэспублікі Беларусь, Пётра Краўчанка.*

Тыдзень перад выступленьнем прэзыдэнта Буша з паведамленьнем аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі — дзяржаўны сакратар Бэйкер адведаў Менск, а ў Вашынгтоне пыбывалі беларускія дыпляматы.

## МЕНСК У АНГЛАМОЎНЫМ ДРУКУ

У сувязі з тым, што Менск быў вызначаны сталіцай новастворанае дзяржавы — Супольства Незалежных Дзяржаваў, у якую ўвайшлі адзінаццаць былых рэспублікаў Савецкага Саюзу — аб Менску зьявілася шмат артыкулаў у Амэрыканскім і Заходня Эўрапэйскім друку. У бальшыні артыкулы прыхільныя — даюць гісторыю гораду, падкрэсьліваюць чысьціню Менску, ветлівасьць беларусаў, ды, нагул, друк адзначае ўдалы выбар сталіцы Беларусі, як сталіцы новае дзяржавы.

Дыссанансам прагучэлі, аднак, некаторыя артыкулы, пераважна ў Нью-Ёрскай прэсе, якія выкарыстоўвалі стэрыятыпны, пусты «Мінск-Пінск» жарт, ды асабліва выказваньне аб Менску цяперашняга амэрыканскага амбасадара у Маскве Робэрта Штраўса. Ён зазначыў, што, маўляў, «перанос сталіцы з Масквы ў Менск, было-б аналягічнае пераносу сталіцы з Вашынгтону ў горад Ньюарк».

Вытлумачым нашым чытачом, што горад Ньюарк знаходзіцца ў штаце Нью-Джэрзі, недалёка ад Нью-Ёрку, мае каля 600 тысячаў жыхарства. Гэта стары амэрыканскі горад з разьвітай прамысловасьцю, унівэрсытэтамі, опэрай ды дзесяткам іншых культурных установаў.

Зьняважлівае, гіранічнае выказваньне амбасадара Штрауса аб Ньюарку-Менску выклікала абурэньне, як адшырокае прэсы, асабліва ў штаце Нью-Джэрзі, гэтак і беларуска-амэрыканскага грамадзтва, ды афіцыйных асобаў. Мэр гораду Ньюарку, Шарп Джэймс, публічна запрапанаваў Штраусу, каб той выбачыўся за абразу — гэтак разглядае выказваньне амбасадара Штрауса рада гораду Ньюарку.

У друку зьявіўся гэтаксама ліст д-ра Юркі Кіпеля, які якраз знаёмы з абодвума гарадамі. Падаем ніжэй гэты ліст у беларускім перакладзе.

**Ліст гэты быў выдрукаваны 29-га сьнежаня 1991 г. у найбольшай газэце штату Нью-Джэрзі "Star Ledger".**

### ВЫКАЗВАНЬНЕ АБ ДВУХ ГАРАДОХ — ДОВАД ІГНАРАЦЫІ.

Паважаны рэдактар!

Я вітаю й поўнасьцю падтрымваю рэакцыю Мэра гораду Ньюарку Шарпа Джэймса на выказваньне амбасадара Робэрта Штрауса аб зьменах у былым СССР. Амбасадар Штраус таксама зазначыў, што перанос сталіцы новае дзяржавы — Супольнасьць Незалежных Дзяржаваў — з Масквы ў Менск быў-бы аналягічным, калі-б сталіцу ЗША, Вашынгтон, перанесьлі ў горад Ньюарк. Ведаючы абодва гарады — Ньюарк і Менск (правільны назоў гораду Менску ў беларускай трансьлітарацыі будзе Miensk) я чуюся таксама абражаны выказваньнем амэрыканскага амбасадара.

Я пражыў у Ньюарку тры гады у часе маёй рэзыдэнтуры і спэцыялізацыі ў дзіцячай кардыялёгіі ў Дзіцячым Шпіталі. Менск — радзіма мае бабкі і бацькі — я меў прыемнасьць наведаць летась. Ня глядзечы та тое, што абодвыя гарады былі значна пашкоджаныя — Ньюарк забурэньнямі у 1960-х гадох, а Менск быў разбамбаваны й разбураны ў часе 2-ое Сусьветнае вайны — гэтыя гарады маюць выдатную колькістагадовую спадчыну. Цяпер гэтыя гарады — важныя індустрыяльныя цэнтры і жыхары абодвух гарадоў ганарацца імі.

Ньюарк цешыцца вельмі пасьпяховым новабудаўніцтвам, а Менск адваёўвае сваю культурную спадчыну й нацыянальная карані пагвалчаныя расейскай і савецкай акупацыяй.

Рабіць вышэй пададзеныя заўвагі афіцыйнаму дзяржаўнаму прадстаўніку — безадказна й паказвае на адсутнасьць ведаў. Амбасадар Штраус павінен адведаць абодвыя гарады, перакanацца колькі гэтыя гарады могуць даць грамадзтву ды публічна папрасіць выбачэньня ў жыхарства абодвых гарадоў. А затым амбасадар канечне мусіць зьмяніць свае арагнцкае стаўленьне.

**Др. Юрка Кіпель, Старшыня Арганізацыі Беларуска- Амэрыканскае Моладзі**

Ігар Бараноўскі

# БЕЛАРУСЫ Ў МАСКВЕ

Нацыянальна-адраджэнскі працэс, які патроху набірае моц на Беларусі, адгукнуўся рэхам і далёка па-за яе межамі. Шмат дзе на тэрыторыі былога СССР створаныя беларуская суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны, Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», Міжнароднае асацыяцыі беларусістаў, БНФ Адраджэньне, Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў. Нялёгкі лёс, службовыя альбо асабістыя абставіны раськідалі за межы сучаснае тэрыторыі Беларусі па тэрыторыі былога СССР каля 2,131 мільёнаў беларусаў. Канешне, далёка ня ўсе яны захавалі ў сабе пачуцьцё беларускасьці. Тым ня менш ня мала й такіх, хто не жадае мець статус рускамоўнага насельніцтва, хто ганарыцца тым, што ён беларус і лічыць патрэбным нават далёка ад Бацькаўшчыны не забывацца пра захаваньне роднай мовы, культуры.

Актыўна й плённа плацуюць па захаваньню й прапагандзе беларускасьці беларускія суполкі ў Вільні, Рызе, Таліне, Кохтла-Ярве, Каралеўцы/Калінінградзе/, Санкт-Петэрбурзе, Цьвяры, Маскве, Ніжнім Ноўгарадзе, Новасібірску, Алма-Аце, Прыазёрску (Казахстан), Крыме ды й некаторых іншых мейсцах былога СССР.

Па дадзеных апошняга перапісу насельніцтва (1989 г.) у Маскве пражывае 73005 беларусаў. Ні ў водным з гарадоў сьвету па-за межамі Беларусі такога вялікага асяродка беларусаў больш няма. Сярод маскоўскіх беларусаў беларускую мову лічаць сваёй роднай мовай 24829 чалавек, альбо 34%. (Для параўнаньня, сярод маскоўскіх украінцаў гэты паказчык прыкладна такі ж: 38% украінцаў, якія жывуць у Маскве, лічаць роднай сваю мову.). Акрамя таго, 14603 маскоўскіх беларусаў назвалі беларускую мову ў якасьці другой мовы народаў СССР, якой яны вольна валодаюць.

Сярод тых, хто актыўна прапагандуе ў Маскве беларускую гісторыю й культуру Алег Брэсцкі. Аўтар меў з Алегам сустрэчу й папрасіў яго адказаць на шэраг пытаньняў.

— Алег, раскажи, калі ласка, трошкі пра сябе. Як ты трапіў у Маскву?

— Нарадзіўся я ў Берасьці, скончыў тут расейскамоўную школу № 23. Карацей, быў як і ўсе. Пасьля заканчэньня школы вырашыў стаць юрыстам, паступіў у Маскоўскі Дзяржаўны Унівэрсытэт. Зараз мне 19 гадоў, вучуся я на 3-м курсе юрыдычнага факультэта, зьяўляюся сябрам студэнцкае суполкі беларусаў у Маскве «Пагоня».

— Што паспрыяла таму, што ты стаў сьвядомым беларусам, чаму адчуў такую неабходнасьць?

— Калі я ад'ехаў у Маскву, стаў вучыцца там, пазнаёміўся бліжэй з расейцамі, беларусы ўявіліся ў іншым сьвеце. Расейцы шмат у чым адрозьніваюцца, на маю думку, у сваім сьветапоглядзе на жыцьцё і на жыцьцёвыя каштоўнасьці. Ня гледзячы на высокі ўзровень культуры сярод інтэлігенцыі, бытавы ўзровень культуры большасьці насельніцтва даволі нізкі. Акрамя таго, калі я пачаў самастойна знаёміцца з працамі беларускіх гісторыкаў, з культураю свайго народу, я ўбачыў, як абылганая й скажоная наша гісторыя. Мне стала крыўдна за старадаўную беларускую культуру і свой народ. У Маскве шмат беларускіх архіваў, якія былі ў свой час вывезеныя і зараз недаступныя для большасьці. Асабліва мяне ўразілі пацы Доўнар-Запольскага.

— Раскажы, калі ласка, пра жыцьцё беларускіх суполак у Маскве. Дарэчы, колькі іх усяго і якія?

— Зараз у Маскве існуе 5 беларускіх суполак, але ж ня выключана, што стане іх і больш. Самая моцная і шматлікая зь іх — Маскоўскае ТБМ і Культуры імя Ф. Скарыны. Яно налічвае каля 600 сябраў. Існуюць таксама Маскоўская суполка БНФ «Адраджэньне», студэнцкая суполка «Пагоня», вуніяцкая суполка, Маскоўская суполка Згуртаваньня Беларускіх вайскоўцаў. Сярод тых, хто найбольш актыўна займаецца прапагандаю беларушчыны са старога пакаленьня — Ігар Паўлоўскі, Аляксандр Драянкоў; з маладых — Генадзь Лех і Генадзь Прыбыцька. Таксама ў Маскве жыве й працуе Алесь Адамовіч — вядомы беларускі пісьменьнік і публіцыст. І зьяўляецца ганаровым старшынёю Маскоўскага таварыства ТБМ і Культуры імя Ф. Скарыны.

З тых мерапрыемстваў, якія ладзіліся ў Маскве для беларусаў, хацелася-б адзначыць апошнія зь іх. Таварыствам Беларускае Культуры 18 траўня 1991 г. у Маскве праводзілася сьвята беларускае культуры, куды запрашаліся ўсе жыхары сталіцы. У залі Дома Палітпрасьветы, дзе яно праводзілася, была арганізаваная выстава старых картаў этнаграфічнае Беларусі. Былі цікавыя выступленьні па гісторыі й культуры Беларусі. У сьвяце прынялі ўдзел такія вядомыя людзі, як Алесь Адамовіч, уніяцкі сьвятар зь Беларусі Ян Матусевіч, унук вядомага расейскага філосафа Фларэнскага.

Яшчэ добра ўдалося нам сьвята Івана Купалы, якое мы ладзілі разам зь летувісамі, латышамі і эстонцамі на рацэ пад Масквою.

Хацелася-б адзначыць цікавую сустрэчу з прафэсарам Шыраевым, які шмат чаго цікавага паведаміў пра гісторыю й этнаграфію Беларусі, вечарыну, на якой нам сьпявала Вальжына Цярэшчанка.

Калі ў краіне адбыўся камуністычны путч, маскоўскія беларусы разам з іншымі баранілі «Белы Дом». Дарэчы, мясцовая суполка БНФ «Адраджэньне» заўжды прымала ўдзел пад бел-чырвона-белым сьцягам у розных дэманстрацыях разам з маскоўскімі дэмакратамі. Але-ж пасьля таго, як путч праваліўся, верх атрымалі дэмакраты, на жаль, расейская дэмакратыя стала набываць ня вельмі прыемныя шавіністычныя рысы. Таму, маскоўская суполка БНФ «Адраджэньне» адмовілася ад падтрымкі такой дэмакратыі і ня будзе удзельнічаць у сумесных зь імі акцыямі.

Падчас пасьляпутчаўскага зьезду народных дэпутатаў СССР, у якім прынялі ўдзел дэпутаты ад апазыцыі БНФ у ВС Беларусі, у нас адбылася сустрэча з Я. Новікам, З. Пазьняком і іншымі дэпутатамі.

Сьвядомыя беларусы агітуюць за падпіску на беларускія выданьні іншых землякоў сталіцы, актыўна вывучаюць і прапагандуць сярод іншых веды з сапраўднае гісторыі Беларусі. Дасьледваньні зь беларускае гісторыі маскоўскіх беларусаў друкуюцца ў беларускай і расейскай прэсе. Нядаўна намаганьнямі ТБК імя Ф. Скарыны быў выдадзены зборнік матэрыялаў пра жыцьцё й дзейнасьць маскоўскіх беларусаў. Ён называецца «СКАРЫНІЧ», няшмат каштуе і жадаючыя могуць набыць яго ў кнігарнях.

Мы хацелі б ўстанавіць памятны знак на доме, дзе трагічна загінуў Янка Купала. Зараз у гэтай справе робяцца пэўныя захады.

— Алег, а якія накірункі дзейнасьці выбрала для сябе наша «Пагоня»?

— Зусім нядаўна мы вырашылі зрабіць студэнцкую суполку «Пагоня» поўнасьцю самастойнаю. Зараз яна аб'ядноўвае каля 25 сябраў. Сярод нас у асноўным студэнты МДУ, гісторыкаархіўнага інстытуту, Баўманскага Унівэрсытэту. Студэнцкі асяродак-гэта спэцыфічны асяродак, у яго ёсьць свае зацікаўленьні. Адна з нашых метаў — дапамагчы студэнтам-беларусам нармальна існаваць і вучыцца ва ўмовах рынку, а ў Маскве, вядома, гэта ня проста-цэны на ўсё даволі высокія. Думаем заняцца камэрцыяй, каб нармальна існаваць. Але ж мы не адмяжоўваемся ад іншых беларускіх арганізацыяў — мэта ў нас агульная — прапаганда й адраджэньне беларушчыны сярод нашых беларусаў у Маскве. Мы плянуйма весьці дасьледчыцкую й навуковую дзейнасьць па гісторыі, літаратуры й этнаграфіі Беларусі. Думаем адлюстроўваць гэта ў сваёй газэцце. Ну, і, вядома, студэнтам, моладзі, нельга без цікавага адпачынку. Таму мы імкнемся наладзіць сувязі з студэнцкімі й маладзёжнымі арганізацыямі на Беларусі, а таксама з беларускай эміграцыяй.

— Беларусь абвесьціла сваю незалежнасьць. Як зараз яе ўспрымаюць у Маскве? Якія ўвогуле адносіны да беларусаў?

— Я бы сказаў, што абвесьціць незалежнасьць-гэта яшчэ мала, трэба яе замацаваць пэўнымі справамі, якіх пакуль вельмі мала. Ды і зрабіць гэта — яна была проста змушана-іншага шляху ёй не заставалася. Зараз ёсьць імкненьні расейскага кіраўніцтва стаць пераемнікам СССР і гэта вельмі небясьпечна для Беларусі. Ня гледзячы на 200-гадовы сумесны (змушаны, праўда) шлях з Расеяй, мы не павінны не неяк выдзяляць у сваіх адносінах. Асноўваца нашыя адносіны з Расеяй павінны на тых жа прынцыпах, што й зь іншымі народамі, краінамі. І ня варта рабіць нейкія выключэньні на ідэялагічным падмурку. Нічога добрага гэта нам не дасьць, нават наадварот. На бытавым узроўні нейкага выдзяленьня беларусаў сярод іншых я не заўважыў, але ж шмат хто лічыць, што Расея заўжды карміла рэспублікі. А дэмакратычны рух зусім не жадае й не падтрымлівае імкненьне Беларусі й Украіны да поўнай незалежнасьці. І гэта змушае ставіць пад сумліў дэмакратыю ў Расеі.

На заканчэньне я хацеў-бы нагадаць беларусам, што пакуль яны самі пра сябе не паклапоцяцца, то ніхто нічога за іх і для іх ня зробіць. Таму трэба быць больш актыўнымі, не чакаць шчасьця ад некага. У іншым выпадку нас чакае лёс тых народаў, што зьніклі й не пакінулі пра сябе анічога ў гісторыі. А тых, хто жадае з намі наладзіць кантакты, хто жадае з намі супрацоўнічаць у нечым, прапаную пісаць па адрасу: 117415, Масква, праспэкт Вярнадзкага 37, Брэсцкаму Алегу («Пагоня»).

# АМЭРЫКАНКА-БЕЛАРУСКА Ў МАСКВЕ



*Галіна Кучура прэзэнтуе сьцяг І. Паўлоўскаму і Лявону Цагельнікаву (трымае газэту «Беларус»)*

Галіна Кучура са штату Пэнсыльванія, па службовых абавязках мужа Анатоля Кучуры, часова жыве цяпер у Маскве. Галіна пазнаёмілася зь мясцовымі беларусамі, бярэ актыўны ўдзел у жыцьці беларускай калёніі. Яна гэтаксама належыць да інтэрнацыянальнага клюбу жанчынаў. Галіна Кучура студыюе архітэктуру й цікавіцца дэкарацыяй інтэрыёраў. Яна, між іншага, была запрошаная удэкараваць Ізраільскую Амбасаду.

Галіна наведала родную Беларусь і памагае адбудоўваць царкву на радзіме.

У лістападзе мінулага году Маскоўскае Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны адзначала «Дзяды» у новым памешканьні пры Беларускім Прадстаўніцтве ў Маскве. Галіна Кучура, якая прысутнічала на ўрачыстасьці, падаравала Беларускай «Амбасадзе» бел-чырвона-белы сьцяг, пашыты другой амэрыканскай-беларускай Лізай Літаровіч з Саўт-Рывэру, Нью-Джэрзі.

Верш «Я шаную дзядоў», які друкуецца ніжэй быў падараваны Галіне аўтарам.

**Надзя Кудасава**

І. Паўлоўскі

## Я ШАНУЮ ДЗЯДОЎ

Я шаную дзядоў,
што радзіму маю баранілі,
што ад зграяў варожых ратавалі
наш кут.

Я шаную дзядоў,
што Айчыну бязьмерна любілі,
што змагаліс, каб край наш
ня ведаў пакут.

Я шаную дзядоў,
што ймкнуліся ўзьнесьці
нашу годнасьць
і мову, бы скарб, берaглі.
Я шаную дзядоў,
што жадалі, каб нашыя вёскі
і мейсцы
Прыгажэлі на нашай цудоўнай
зямлі.

Я шаную дзядоў —
працавітых дзядуляў, бабуляў,
што сумленна жыцьцёвай дарогай
прайшлі.

Я шаную бацькоў —
маіх родных татулю й матулю,
што зусім маладымі ў магілу
зышлі.

Я шаную дзядоў,
што паходню свабоды узьнесьлі,
каб агонь адраджэньня
ніколі ня згас.

Я гукаю дзядоў,
каб яны на ймгненьне ўваскрэсьлі,
запрашаю іх шчыра:
«Прыходзьце да нас»...

## БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЦІ Ў ВЯЛІКА-БРЫТАНІІ



*Група беларускіх вучняў на сустрэчы ў Валіі. Фота Лёлі Міхалюк*

На запрасіны Хрысьціян Сярэдняй Валіі, на пачатку лістападу зь Беларусі прыбыла група 32 школьнікаў і 5 настаўнікаў на двухтыднёвы адпачынак у Хрысьціянскім адпачынковым цэнтры Сэфн Лі, што знаходзіцца блізу гораду Ньютоўн, Сярэдняя Валія.

Даведаўшыся аб прыезьдзе групы, спадарства Ян і Лёля Міхалюкі з сынам Эдуардам паехалі на сустрэчу зь імі. Прыбылі туды й спадарства М. Швэдзюкі. Дзеці паходзяць са Столінскага раёну, Берасьцейскай вобласьці. Пры бліжэйшым знаёмстве выявілася, што некаторыя з настаўнікаў і дзяцей маюць блізкіх знаёмых сярод беларускіх сем'яў тут, у Ангельшчыне...

Ян Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вяліка-Брытаніі, даў падарунак ад арганізацыі кожнаму дзіцяці й настаўнікам ды запрасіў усіх у беларускі асяродак у Лёндан.

Дня 17-га лістапада яны прыбылі на добра падрыхтаваны абед у аднэй з заляў пры Беларускай бібліятэцы імя Фр. Скарыны. Зацікаўленасьць Бібліятэкай і Музэям была вялікая, можа таму, што ніхто з прыбыўшых не ўяўляў беларускага нацыянальнага жыцьця тут, на чужыне. Ян Міхалюк вітаючы гасьцей, прадстаўляў прысутных сяброў ЗБВБ і прыяцеляў. З прывітальным словам прамаўляў да гасьцей А. Зданковіч, сакратар ЗБВБ.

Першы раз за сваё існаваньне, гэты асяродак закрасаваў моладзьдзю ў такой колькасьці. Векам былі яны ад 12 да 17 гадоў, пераважна дзяўчаты. Захаваньне іх тут заслугоўвае на пахвалу, як іхным настаўнікам, гэтак і бацьком. Многія зь дзяцей гавораць па-беларуску, а разумеюць мову ўсе. У залі пры Бібліятэцы наступілі сапраўдныя вымены думак ды ... падарункаў.

На заканчэньне, Я. Міхалюк падкрэсьліў важнасьць гэтай сустрэчы, ды выказаў найлепшыя пажаданьні моладзі у іхным адказным жыцьці, бо яны стаяць перад заданьнем адраджэньня нацыянальнага жыцьця Беларусі. Прачулымі словамі прамаўляў сп. Іван Семянюк, сябра Гаркама Берасьця. Ён быў радасна ўсхваляваны тым што пачуў і пабачыў — жыве тут беларуская культура, мова, традыцыі. Ён выказаў глыбокі жаль, што жывучы ў Беларусі, беларускае грамадзтва адарвалася ад народнай культуры, занядбала нацыянальныя каштоўнасьці, а вось, жывучы на чужыне, вы маглі гэтыя каштоўнасьці захаваць. Выказаў, аднак, надзею, што ня гледзячы на цяжкасьці, якія адчуваюцца ўсюды, ўсё-ж, хоць і вельмі павольна, але нацыянальнае жыцьцё ў Беларусі адраджаецца.

Песьняй «Пагоня» і «Бавайце здаровы» сустрэча скончылася. Варта пры гэтым выказаць удзячнасьць наступным асобам: Ніне Гэрчыньскай, арганізатарцы, якая хоць і жыве ў гор. Лодзь ў Польшчы, не забылася пра цяжкі лёс беларускіх дзяцей у зоне забруджаньня Чарнобыльскай радыяцыяй; кіраўніку групы Івану Семянюку; настаўніцам Лілі Паляковай, Натальлі Найдзін і Тацьцяне Патрушына. Асаблівая удзячнасьць належыць «Сярэдня-Валійскім Хрысьціянам», якія забясьпечылі мейсца адпачынку й транспарт (зь Беларусі й назад дзяцей вязьлі аўтобусам).

**А. Зданковіч**

**УВАГА!**

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**й**
**Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Нью-Ёрку**

Паведамляюць, што селетняе адзначэньне Сакавіковых Угодкаў —

**ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

адбудзецца 29-га сакавіка ў горадзе Нью-Брансвіку, Нью-Джэрзі.

*Аб дэталях будзе паведамлена пазьней.*

## БЕЛАРУСКАМУ ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА Ў КАНАДЗЕ 25 ГАДОЎ

У 1992 годзе Беларускаму Інстытуту Навукі Мастацтва ў Канадзе спаўняецца 25 гадоў.

У сьнежні 1951 году у Нью Ёрку быў заснаваны Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Сяброўства й дзейнасьць яго пашыралася ня толькі на ЗША, але й на Эўропу ды Канаду. У тым жа годзе стараньнем канадыйска сябры БІНІМ'у, Вінцэнта Жук-Грышкевіча, пры Унівэрсытэце Таронта, аддзеле слявістыкі — University Extention — заснаваны быў лектарат Беларусаведы. Лектарат праіснаваў да вясны 1954 году, — да часу, калі выкладчык лектарату, др. В. Жук-Грышкевіч, мусіў выехаць у Мюнхэн, каб там арганізаваць беларускую сэкцыю радыя «Вызваленьне».

У верасьні 1967 году, зь ініцыятывы й стараньнем сяброў БІНІМ, Згуртаваньне Беларусаў Канады ўрачыста адзначала 450-я угодкі беларускага друку запачаткаванага ў 1517 г. др-м Францішкам Скарынам. З гэтай нагоды ў Таронта была наладжаная выстаўка прысьвечаная жыцьцю, дзейнасьці й творчасьці Францішка Скарыны. Экспанаты на выстаўку пазычыў для ЗБК БІНіМ у Нью Ёрку.

На Другім Кангрэсе Канадыйскіх Славянаў, што адбыўся ў чэрвені 1967 году ў Атаве, др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, сябра БІНіМ, чытаў даклад на тэму «Беларусы й Канадзкая Статыстыка» — "Belorussians and Canadian Statistics". Выступаў ён ад Згуртаваньня Беларусаў Канады, а вымагалася, каб лектар рэпрэзэнтаваў нейкую навуковую арганізацыю — Learned society — Канады, а не грамадзкую. Выпадак гэты быў беспасрэднэй і аднэй з галоўных прычынаў заснаваньня БІНіМ у Канадзе.

У паразуменьні з др-ам В. Тумашам, тагачасным старшынём БІНіМ'у Нью Ёрку, 17 верасьня 1967 году у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта адбылося арганізацыйнае паседжаньне, на якім створаны быў Аддзел БІНім ў Канадзе, паангельску "Byelorussan Institute of Arts and Sciences, Canada Branch". На старшыню аддзелу выбраны быў др. В. Жук-Грышкевіч, а на сакратара-скарбніка маг. А. Грыцук, ды з фармальных і практычных прычынаў Аддзел БІНіМ у Канадзе быў пераіменаваны, на БІНіМ у Канадзе, паангельску "Byelorussian Institute of Arts and Sciences, Canada."

БІНіМ у Канадзе арганізаваў, з дапамогай дзяржаўных субсыдыяў, пры Унівэрсытэтах Атавы й Кінгстану, некалькі навуковых канфэрэнцыяў і мастацкіх выставак. Сябры Інстытуту бадай штагоду, бяручь чынны ўдзел у слявістычных канфэрэнцыях Канады, супрацоўнічаюць зь БІНіМ у Нью Ёрку. БІНіМ у Канадзе ад 1971 году ёсьць актыўным сябрам Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады.

Выканаўчы Камітэт Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады вітае свайго сябру-арганізацыю, — Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва у Канадзе — зь яго ным чвэрцьстагоднім юбілеем і жадае яму далейшай творчай працы на карысьць шматкультурнай Канады й роднай Бацькаўшчыны-Беларусі.

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Старшыня ККБК і сябра БІНім у Канадзе.**

**Алена Тарасэвіч**

## ВЯРТАНЬНЕ НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

**(Працяг. Пачатак гл. у № 385)**

**Частка 2**

Як ня сьпяшаліся аргентынскія беларусы дадому — маецца на ўвазе Савецкая Беларусь — з дакумэнтамі й дазволамі на пераезд савецкі бок марудзіў. За вяртаньне трэба было змагацца. Чым бы заслужыць, дарэчы, ужо савецкім грамадзянам рэ-эміграцыю? Па-першае, абавязкова наведваць клюбы і таварыствы, праводзіць прапагандысцкую працу, распаўсюджваць савецкую літаратуру, і, барані Божа, калі вас убачаць на нейкай аргентынскай вечарыне ці, нават, балю. Чужакоў і пасляваенную эміграцыю ў клюбы ня пускалі, але і сваім не дазвалялі прыбівацца да іншых кампаніяў.

Галоўны дарадца па ўсіх пытаньнях — пасольства — ва ўсім намагалася стварыць атмасфэру савецкага ладу жыцьця. Пасольства, напрыклад, не ўхваляла, калі нехта з эмігрантаў троxі багацеў, набываў сабе дамы, машыны, бо такім чынам падтрымліваў «буржуазныя» парадкі ды й прынцыпы роўнасьці парушаліся. Шкоднай лічылася, нават, вышэйшая адукацыя, бо чаму добраму могуць навучыць у буржуазных унівэрсытэтах? Найлепей — рабочая спэцыяльнасьць, а навука будзе на Бацькаўшчыне.

Месяцы, тыдні, дні заставаліся да чаканага ад'езду... Нарэшце — дазвол. Трэба толькі запоўніць анкеты: адкуль выязджаеце — з Аргентыны, з Буэнас-Айрэса; куды хочаце паехаць?... Савецкі пасол тлумачыў, што гэта радок анкеты запаўняць ня трэба, маўляў, на мейсцы разьбярэцеся, куда захочаце, туды і паедзеце. Зьбіраліся выязджаць цэлымі сем'ямі — фрахтавалі вялікія акіянскія параходы на тысячы мейсцаў, прадавалі маёмасьць, хто яшчэ заставаўся. З сабой, як раілі супрацоўнікі савецкага пасольства, бралі мінімум неабходнага.

Бывала, што дзеці, якія ўжо нарадзіліся ў Буэнас-Айрэсе, паканчылі школы і вычыліся далей, не хацелі вяртацца разам з бацькамі ў невядомую ім краіну Саветаў: уласнабеларускага выхаваньня ў іх ня было, а настальгіі па родных мясьцінах ня магло быць. Яны ўцякалі напярэдадні ад'езду бацькоў, а тых суцяшаў савецкі пасол: не хвалюйцеся, едзьце самі, а мы вашых дзяцей знойдзем і потым адправім да вас. Сам савецкі пасол абяцаў!!! І сям'я Мянькоў выправілася ў далёкае падарожжа без дзьвюх сваіх дачок.

Сярод рэ-эмігрантаў былі людзі і сярэдняга дастатку (па аргентынскіх мерках), і нават міліянэры, вядома не спадчынныя, а тыя, хто нажыў сабе капітал дзякуючы свайму розуму і энергіі. Адзін з такіх міліянэраў, спадар Глоўка, зарабіў свае багацьці падчас вайны, калі перапыніліся гандлёвыя сувязі з Індыяй і Цэйлонам і Аргентына засталася на нейкі час без імпартнага чаю. Глоўка заклаў свае чайныя плянтацыі. Але пасьля вайны, як у Аргентыне пасяліліся савецкае пасольства, спадар Глоўка захапіўся сацыялістычнымі ідэямі. І ўсе ягоныя мільёны паплылі ў кішэні кампартыі Аргентыны. У канцы 50-ых гадоў Глоўка вярнуўся ў Савецкі Саюз і як сапраўдны камэрсант, спэцыяліст і патрыёт адразу-ж папрасіўся накіраваць яго працаваць на чайныя плянтацыі. Але грузінская сацыялістычная вытворчасьць расчаравала яго хутка і настолькі грунтоўна, што ён мусіў пераехаць жыць на вёску у сваю родную Берасьцейшчыну. Памёр у галоце й нястачы.

1955 год. Порт Адэса. Сярод першых вярнуўся й кіраўнік Славянскага Саюзу, былы лейб-гвардзеец Павал Шастакоўскі зь сям'ёй. Куды ехаць? Краіна вялікая, спакусаў багата: і Масква, і горад юнацтва Ленінград. Беларусы-ж, зразумела, мелі намеры ў Менск, Гародню ці якія іншыя гарады Заходняй Беларусі, кожнаму карцела на Бацькаўшчыну. Але савецкая ўлада размеркавала па-свойму, і толькі Шастакоўскаму, як кіраўніку, зрабілі выключэньне — дазволілі пасяліцца ў сталіцы, але не ў Маскве, і нават не ў Расеі, як ён спадзяваўся, а ў Менску. Далі кватэру ў доме, што над рэстарацыяй «Патсдам». Працаваць ён ужо ня мог, атрымліваў невялічкую пэнсыю. За тыя некалькі гадоў, што пражыў у Савецкай Беларусі, пасьпеў напісаць кніжку «Путь к правде», пра сваё жыцьцё і змаганьне на чужыне. Цяжка сказаць, як зьмяніліся і ці зьмяніліся ўвогуле ягоныя погляды на савецкае грамадзтва пасьля пабачанага... Ён быў ужо занадта стары, каб расчароўвацца... Пасьля ягонай сьмерці, жонка, калісьці салістка опэры, адукаваная, інтэлігентная жанчына, якая ведала некалькі моваў, засталася практычна бяз сродкаў на жыцьцё. Урэшце, уладкавалася працаваць лябаранткай у інстытут замежных моваў. Да выкладніцкай працы яе не дапускалі, бо ня мела адпаведнага савецкага дыплёму, а здаць на яго ніяк не магла — бо так і не авалодала тэорыяй навуковага камунізму...

Тыя, хто вяртаўся, апынуліся перад сур'ёзнай дылемай: альбо на будоўлі сацыялізму ў Данбас, альбо ў калгас. Гарады для рэ-эмігрантаў былі прак-

## БЕЛАРУСЫ Ў КАЗАХСТАНЕ

Мы тут у Казахстане патроху згуртоўваем беларусаў. Згуртаваньне Беларусаў Казахстану, Сібіру патрэбнае яшчэ й таму, што гэта дапамагло-б беларусі атрымоўваць больш сыравіны з Сібіру, з Казахстану. А будзе сыравіна, запрацуе беларуская прамысловасьць — будзе чым гандляваць з Расеяй, Сярэдняй Азіяй і другімі рэспублікамі ды краінамі. Будзе больш і валюты. Тады і ад Чарнобыльскай бяды можна справіцца самім, а не дарэмна прасіць у Масквы дапамогі, ці працягваць руку на Захад.

Але справы гэтыя ідуць у нас марудна. На ўсё патрэбныя грошы. Дагэтуль бралі са свайго заробку. Цяпер шмат ня возьмеш. Напрыклад, я, як кандыдат тэхнічных навукаў, дацэнт, зарабляю 500 рублёў на месяц. А цэны ў Алма-Аце такія: 1 кг. мяса каштуе 20-30 рублёў, боты для жонкі 1000-1200 рублёў, сарочка 200-300 рублёў, марненькі касьцюм 700-1000 рублёў, і г.д. (восень, 1991 г. рэд.).

Міністэрства Культуры Беларусі не дало ані аднэй капэйкі. Казахскае міністэрства не давала на беларускую дыяспару ў Казахстане ні капейкі і далей не даюць. У галоўнай бібліятэцы у Алма-Аце няма на беларускай мове ні слоўніка, ні падручнікаў, ні мастацкіх твораў. Па радыё ніхто ніколі ня скажа аніводнага слова на беларускай мове. У Прыазёрску сп. С. Суднік выдаваў адзіную на ўвесь Казахстан і Расею беларускую газэту «Рокат». Пасьля жнівеньскіх падзеяў яе закрылі. Каб яе зноў выдаваць патрэбныя грошы. Вось іх і шукаем.

У Алма-Аце існуе Культурны Цэнтр «Беларусь». У лістападзе сёлета цэнтр выслаў адозву да беларусаў, якія жывуць па-за межамі Бацькаўшчыны у якой гаворыцца: «Хоць мы й далёка ад Беларусі, але павінны зразумець, што настаў час дзейнічаць. Зямля Беларусі, яе патанцыял павінны быць уласнасьцю беларусаў, і тых, якія цяпер у Беларусі, і тых, якія далёка ад яе межаў. Цяпер, калі у Беларусі зьяўляюцца новыя законы, мы павінны сказаць аб гэтым парлямэнту Беларусі. Мы павінны сказаць аб тым, што больш двух мільлёнаў беларусаў Сібіру, Прыбалтыкі, Казахстану, Польшчы, Заходняй Эўропы, Амэрыкі, Аўстраліі павінны мець права атрымаць грамадзянства новай Беларусі. Лёс гэтых людзей пазваляе ім быць грамадзянінам як той зямлі, якая корміць ягоную сям'ю, так і той далёкай спадчыны, дзе пакояцца ягоныя дзяды, бацькі і дзе заўтра ён можа быць і сам...»

**Я. Майсейчык**

## НАВІНЫ ЗЬ БЕРАСЬЦЕЙШЧЫНЫ

Цікавай справай заняліся ў Батчанскім Доме культуры Кобрынскага раёну. Дырэктар ДК У. Шабліцкі перагаварыўшы зь мяйсцовымі аматарамі мастацкай самадзейнасьці, сярод якіх больш людзей сталага ўзросту зь вёскі з прыгожай назвай Літвінкі, вырашылі адрадзіць і перадаць маладой генэрацыі бацькоўскія песьні, абрады і традыцыі. Створаны калектыў назвалі «Літвінянка». Былі падрыхтаваныя й з посьпехам прайшлі ўжо некалькі тэматычных праграмаў: «Вячоркі», «Дажынкі», «Ткачыхі». Рыхтуецца й новая праграма — «Вясельле». Важна, што ўсе праграмы падрыхтаваныя толькі згодна сваім вясковым традыцыям. Гледачы зь вялікім задавальненьнем сустракалі праграмы самадзейнікаў.

У Пінску ў гэтым годзе Дзяды праводзіліся недалёка ад гораду ў лясным масіве, што ля в. Вулька-Гарадзішчанская. Некалькі год назад там была знойдзеная брацкая магіла закатаваных бальшавікамі перад самым пачаткам вайны людзей-так званых ворагаў народу. На мейсцы магілы быў усталяваны драўляны крыж з надпісам «Тут ляжаць ахвяры камунізму. 41 г. чэрвень».

У Пінску адбылося пасежданьне гарадзкой арганізацыі БСДГ. Грамадоўцаў у горадзе пакуль няшмат-усяго 13, але ж сярод іх нямала вельмі актыўных дэпутатаў гарсавету. На паседжаньні было вырашана распрацаваць сваю праграму сацыянальнага разьвіцьця Пінску. Мяркуюць, што ў наступным годзе прыйдзецца абіраць мэра гораду; у сувязі з гэтым грамадоўцы вырашылі абавязкова вылучыць і свайго кандыдата на пасаду мэра.

У в. Рудск Яноўскага р-на на мейсцы разрабаванай у часы панаваньня атэізму драўлянае царквы адбудаваная новая цагляная. У кастрычніку адбылося асьвячэньне й першае набажэнства ў новай царкве.

У в. Альшаны, што на Століншчыне, пачалося будаўніцтва праваслаўнай царквы. У Радзіхаўскай царкве, якая таксама нядаўна пабудаваная, з гэтае нагоды была праведзена літургія. Адтуль веруючыя хрэсным ходам накіраваліся да мейсца будучай царквы, дзе быў закладзены першы камень. У Альшанах вельмі моцная абшчына пяцідзесятнікаў, якія заканчваюць будаўніцтва вельмі прыгожага вялікага малельнага дому.

У Берасьцейскім касьцёле кожны жадаючы можа набыць рэлігійныя кніжкі — «Біблія», «Катэхізіс» на беларускай мове. Гэтага ня можа зрабіць вернік у праваслаўных храмах гораду. Кс. Зьбігнеў Кароляк актыўна вучыць беларускую мову і абяцаў у хуткім часе весьці набажэнствы на 2-х мовах. У касьцёле працуюць сёстры-кармэліткі і шарыткі, якія таксама выказалі жаданьне вывучыць мову людзей, сярод якіх яны працуюць. Праваслаўе такіх крокаў пакуль не зрабіла...

## КРАЙ МОЙ ВАСІЛЬКОВЫ

Пад гэткім назовам 11-га сьнежаня мінулага году у залі камэрнай музыкі ў Менску быў наладжаны канцэрт кампазытараў беларускага замежжа.

Харавая капэла Акадэміі Навук Беларусі, пад кіраўніцтвам Тамары Слабодчыкавай ды харыстыя Ірэна Лебедзева, сапрана, Уладзімер Лашак, бас, Валеры Гуцаў, тэнар і Аляксандар Пэтрыкаў, барытон выконвалі творы беларускіх эмігрантскіх кампазытараў Эльзы Зубковіч, Міколы Равенскага й Міколы Куліковіча.

У першай частцы канцэрту былі выкананыя рамансы Э. Зубковіч на словы Я. Коласа, М. Кавыля ды Натальлі Арсеньневай, беларускія народныя песьні ў апрацоўцы М. Равенскага й М. Куліковіча, ды песьня М. Куліковіча «Летам» на словы Я. Купалы і «О, Беларусь, мая шыпшына», У. Дубоўкі. Другая частка канцэрту складалася з рэлігійнай музыкі М. Равенскага й М. Куліковіча.

Канцэрт закончыўся малітвай «Магутны Божа», музыка М. Равенскага на словы Натальлі Арсеньневай.

## СТЫПЭНДЫІ ДАСЬЛЕДНІКАМ БЕЛАРУСАВЕДЫ Ў АНГЕЛЬШЧЫНЕ

Беларускі Харытатыўны Фонд, які быў заснаваны Згуртаваньнем Беларусаў у Вялікабрытаніі ў 1963 годзе, Дэпартмэнт Замежных Справаў ангельскага ураду ды Лёнданскі Унівэрсытэт стварылі трохгадовую праграму паглыбленьня студыяў і дасьледваньняў для адвансаваных студэнтаў (post-graduate) у розных галінах беларусазнаўства ды ў сельскагаспадарскіх галінах, эканоміцы, адукацыі, гісторыі, праве, філязофіі, палітычных навуках, ахове здароўя, фінансах ды славянаведных дасьледваньнях.

Праграма ўваходзіць ў жыцьцё ў 1992/93-ім акадэмічным годзе. Стыпэндыі будуць аплачваць студыі на адным зь Лёнданскіх Каледжаў, жыцьцёвыя кошты, частку дарожных выдаткаў і інш.

Зацікаўленыя дасьледнікі і адвансаваныя студэнты зварачайцеся па дакладныя інфармацыі і даведкі на адрас:

University of London
Belarussian Fellowship Programme
School of Slavonic and East European Studies
Senate House
Malet Street
London WCIE 7 HU
England
Tel: 071-636-8000 ext. 4095
Fax: 071-436-0970

---

тычна зачыненыя. Ранейшая спэцыяльнасьць і кваліфікацыя таксама не мелі аніякага значаньня. Былі вы сакратаркай — будзеце мантажніцай, працавалі краўцом — навучыцеся й грузчыкам.

Спадар Лазоўскі ў Аргентыне працаваў электразваршчыкам. Прыехаў. У яго адабралі ўсе дакументы, пашпарту не далі, і накіравалі на вёску — жыві, працуй па спэцыяльнасьці, і там знойдзецца, што электразварыць... Мыкаўся чалавек, мыкаўся, урэшцее ня вытрымаў, паехаў у Маскву, у міністэрства Замежных Справаў прасіцца назад — у Аргэнтыну! Божа барані скандалу! Ледзь угаварылі вярнуцца ў Менск. А на вакзале састрэкае машына і вязе ў аднапакаёвую кватэру... без аніякіях бюракратычных цягамоціны.

Але некаторым пашчасьціла прарвацца ў горад. І тут новыя праблемы: у вас няма прапіскі, значыць ня возьмуць на працу, а без працы ніхто не прапіша — савецкая дыялектычная сьпіраль.

Што рабіць?

Уладкоўваліся за вялікія грошы ў катухах. Першы час жылі за кошт таго, што прадавалі свае рэчы. Многія шкадавалі, што не ўзялі з сабой бялізны, спальнікаў ды іншай бытовай драбніцы, якую думалі набыць ужо тут — у краі агульнага дабрабыту. Жыцьцё зноў, вось ужо другі раз, даводзілася пачынаць з нуля. Мала каму пашчасьціла знайсьці добрую працу, і, пасьля некалькіх гадоў гаротніцтва і безвыходнасьці, людзі ўсё часьцей успаміналі добрую старую Аргэнтыну — сытую і спакойную. Што-ж, зноў вяртаньне...?

Але цяпер гэта ня так проста! У Аргэнтынскае пасольства не патрапіш — паўсюль міліцыя і камітэт дзяржаўнай бясьпекі. Даведваліся нумар тэлефону пасольства, званілі, дамаўляліся на сустрэчу. Праўда, пасьля, праз некалькі гадзінаў вас маглі арыштаваць у якой-небудзь краме, скажам, за крадзеж гузікаў. Першыя ўцёкі назад, у Аргентыну пачаліся ўжо з 1961 году, але пашчасьціла толькі тым, хто альбо быў аргэнтынцам з нацыянальнасьці, альбо пакінуў там, за мяжой, вельмі блізкіх сваякоў ці дзяцей, як Віктар Мянёк, што зьехаў без дачок.

Некаторым, каб не ўцякалі назад і каб не пайшла пагалоска сярод астатняй эміграцыі пра сапраўдны стан рэчаў у Савецкім Саюзе, давалі без чаргі кватэру. Але і за гэта трэба было плаціць нэрвамі і здароўем, што нават і цяпер многія, асабліва старэйшага веку людзі, здрыганоцца, пачуўшы прозьвішча тагачаснага старшыні менскага гарвыканкаму таварыша Шарапава.

Прывыкаць было цяжка, асабліва маладым, якія не ведалі іншага жыцьця, апроч як заходняга. Як маглі рэагаваць маладыя людзі, скажам, на такое: у інстытуце, ці на працы, аб'яўляецца прывычная ў СССР абавязковая падпіска на газэты. А вы адмаўляецеся. Хочаце пачытаць нешта іншае, ці зусім ня хочаце чытаць. І тут вам кажуць, што не хацець падпісацца нельга, інакш гэтыя грошы ў вас вылічуць са стыпэндыі?...

Або вось яшчэ адзін рэальны выпадак. Вы стаіце на прыпынку, чакаеце свайго тралейбуса. Раптам да вас падбягае міліцыянт, б'е, скручвае рукі і валачэ ў міліцэйскі пастарунак. І там ад вас, у прысутнасьці сьведкаў, вымагаюць подпісу пад пратаколам, у якім сказана, што вы — злосна хуліганілі і ехалі некалькі прыпынкаў... на даху тралейбуса!.., чым псавалі сацыялістычную маёмасьць.

Такія вось неспадзяванкі падпільноўвалі неспрактыкаваных суайчыньнікаў літаральна на кожным кроку. Паступова душу і сьвядомасьць апаноўваў страх. Баяліся пісаць праўду сваякам і знаёмым у Аргэнтыну, баяліся, што за кожным іхным крокам сочаць, баяліся пратэставаць і скардзіцца. А гэтым часам газэта «За вяртаньне на Радзіму», нагадваем, што цяпер яна называецца «Голас Радзімы», на поўныя грудзі выхваляла казачнае жыцьцё, якое лёс і савецкі лад падаравалі былым эмігрантам.

Адзін з артыкулаў нават пачынаўся словамі, быццам пачутымі журналістам у сям'і рэ-эмігрантаў: «Сынок, ня будзеш слухацца, адпраўлю ў Аргэнтыну!..» Дарэчы, гэты сынок, зь сям'і Валковічаў ужо жыве ў Аргэнтыне. На адкрытую хлусьнюю газэт ня было ўправы, пратэсты вашыя анікога ня цікавілі.

А з Аргэнтыны ўсё прыбывалі й прыбывалі беларусы. Да 1964 году іх прыехала ўжо каля 10-цёх тысячаў. А праз якія чатыры-пяць гадоў працэнтаў 40 зь іх ізноў уцякалі ў Лацінскую Амэрыку. Гэтыя масавыя ўцёкі спачатку зьбянтэжылі тамтэйшую беларускую савецкую грамаду, іх ня слухалі, ня пускалі ў клюбы, лічылі здраднікамі. Вельмі павольна ішоў працэс прасьвятленьня, але ўсё-ж ішоў. Адныя таварыствы грамадзянаў СССР занепадалі, другія пераходзілі з палітычнай на культурніцкую глебу. Усё менш і менш было ахвочых паехаць у СССР, пераставалі нават цікавіцца савецкай літаратурай і газэтамі «для суайчыньнікаў за мяжой».

Цяжэй было тым, хто так і застаўся ў СССР. Ніхто імі больш ня цікавіўся, ані таварыства «Радзіма», ані савецкія ўлады і толькі КДБ па-ранейшаму старанна асьцерагала іх ад непажаданых кантактаў, ад павышэньняў па службе, ад творчага росту. Так і дажылі да перабудовы 80-ых гадоў.

А зараз едуць на другую Радзіму сваіх дзядоў, у Аргентыну, унукі. Яны могуць сабе дазволіць пачаць жыцьцё з пачатку.

## БЕЛАРУСКАЕ КАЛЯДНАЕ РЭХА З ПАСАДЫНЫ (КАЛІФОРНІЯ)



*Найдзюкі ў час выступу*

17-га сьнежаня, 1991 году ў Дзіцячым Садку Палітэхнічнай школы ў Пасадыне адбыўся выступ сп-ні Ядзі Найдзюк-Жэнэв'ер з дачкой Шарлотай і бацькам Чаславам. Тры пакаленьні Найдзюкоў у беларускіх народных касьцюмах выступілі перад дзецьмі клясы, каб пазнаёміць іх зь беларускімі Калядамі. Ядзя расказала аб беларускай каляднай традыцыі, як сьвяткуюцца Каляды на Беларусі, ды ў Беларускіх сем'ях у Амэрыцы. Пры гэтым яна дэманстравала прыгожы вышываны настольнік ды зазначыла пра некаторыя звычаі і варожбы. Ядзя й Часлаў дуэтам выканалі калядку «Саўка ды Грышка» ды растлумачылі значаньне дуды як музычнага народнага інструмэнту. Калядка была паўтораная пад акампанімэнт на піяніне настаўніцай. Былі паказаныя й беларускія калядныя карткі.

**Часлаў Найдзюк**

## КУТОК КАЛЕКЦЫЯНЭРАЎ

Як паведамлялася раней, у Менску, упяршыню ў Беларусі, пачала выходзіць новая газэта «Беларускі калекцыянэр». Атрымана рэдакцыяй ужо чатыры нумары. У газэце асноўная ўвага зьвяртаецца на калекцыянаваньне краіннай беларусістыкі, але зазначаецца гэтаксама аб беларускіх калекцыянэрах і ў дыяспары. Каб дапамагчы азнаёміцца з беларускай калекцыянэрскай тэматыкай дыяспары час-часом будзем друкаваць матар'ялы ў дапамогу беларускім калекцыянэрам.

Беларуска-тэмныя нумары аўтамабіляў




*"Belarus"*
*Нумар аўта др-а Юркі Кіпеля у штаце Нью-Джэрзі*




*"Vasilok"*
*Нумарны знак аўта Паўла Рамана*

## З АДЭЛЯЙДЫ, ПАЎДЗЁННАЯ АЎСТРАЛІЯ

Беларускае Аб'еднаньне супольна з Парафіяй Сьв. Апосталаў Пятра й Паўлы у нядзеделю 17-га сьнежаня 1991 году, пасьля Божае службы наладзіла пікнік. Увесь даход з імпрэзы быў прызначаны на Беларускае Радыё ў Пэрт, Усходняя Аўстралія. На пікнік сабралася шмат людзей, у тым ліку і двое маладых гасьцей зь Беларусі, з Баранавічаў. Была разыграная лятатрэя, фанты на каторую былі ахвяраваныя парафіянамі.

24-га сьнежаня было арганізаванае сьвяткаваньне ў гонар Слуцкіх Гэрояў. Пасьля Божае службы, а. М. Бурнос адслужыў паніхіду пры ганаровай сьцяжной варце з Аўстралійскім і Беларускім сьцягамі. Пасьля малебну адбыўся супольны абед у пад-царкоўнай залі. Старшыня Аб'еднаньня сп. М. Колес прачытаў прынагодны рэфэрат, а сп. Янка Аршанскі зачытаў прывітаньні. Хвілінаю цішы ўшанавалі памяць Случчакоў.

**У. Акавіты**

## БЕЛАРУСКІ АГЛЯД — ІНФАРМАТАР І ДАПАМОЖНІК АНГЛАМОЎНАМУ ЧЫТАЧУ

Квартальнік "Belarusian Review" назваць «дайджэстам» нельга, бо часапіс не толькі зьбірае й падсумоўвае цікавы беларусаведны-палітычны матар'ял, але і выказвае беларускі пагляд, уносіць карэктывы. Гэты бюлетэнь — салідны беларускі палітычны незалежніцкі орган ды экспрэс інфармацыя.

Важныя адзнакі часапісу гэткія: накіраванасьць на англамоўнага чытача й палітычнага дасьледніка, часапіс, шырокі ў дыяпазоне як тэматычнасьці беларусаведнага матар'ялу, гэтак і ў колькасьці крыніцаў, ахапляе дзесяткі амэрыканскіх газэтаў, пэрыёдыкаў і іншых друкаў. Адначасна, часапіс рэзюмуе амаль усе беларускамоўныя выданьні дыяспары. Надзвычай важная адзнака часапісу і тая, што англамоўнаму дасьледніку і палітыку даецца матар'ял і зусім новы, а гэта — інтэрвію зь беларускімі палітыкамі, прадстаўнікамі БНФ, членамі Вярхоўнага Савету рэспублікі і г.д., а празь ліставаньне з насельніцтвам Беларусі — жыцьцёвыя праблемы краіны.

Для беларускае дыяспары «Беларускі Агляд» асабліва важны тым, што нарэшце палітычны Вашынгтон атрымвае інфармацыю пра рэспубліку Беларусь зь беларускае крыніцы, дзе насьвятляецца нацыянальна незалежніцкі пагляд. Трэба-ж прызнаць, што нашае найбольшае няшчасьце на захадзе было тое, што пра нас няправільна інфармавалі, фальшавалі наш пункт гледжаньня. «Беларускі Агляд» робіць для нас важную палітычную працу сёньня ды імкнецца выправіць памылкі мінулага.

Выдаўцы «Беларускага Агляду» заклікаюць чытачоў часапісу аднавіць падпіску на 1992 год. Усіх, хто цікавіцца тэматыкай BR (як Беларусаў, так і тых, што валодаюць толькі ангельскай моваю) заклікаем выпісваць часапіс. Будучыня Беларусі ў вялікай меры залежыць ад пашыраньня інфармацыі пра Беларусь у англамоўным сьвеце.

Кошт гадавое падпіскі — $15.00. Перасылка за мяжу лятунскай поштай — дадатковых $8.00. Чэкі на падпіску (у валюце ЗША) просім пасылаць на адрас:

BR., P.O. Box 10353, Torrance,
Ca 90505, USA



## БЕЛАРУСКІЯ КАЛЕНДАРЫ



*Студзень 1992 г.*

Як ведама, дзесяцігодзьдзямі Савецкая ўлада на Беларусі забараняла выданьне беларускіх календароў — вельмі папулярнае ад часоў Скарыны формы нацыянальнае літаратуры. Аднак, із зьменай палітычнай сытуацыі на Беларусі, беларусы могуць цяпер друкаваць і свае календары. Хоць і трагічна-іранічная, але перамога!

Сёлета, на 1992 год выдадзены гэтак патрэбныя й добра аформленыя календары:

Выдавецтва «Беларусь» выдрукавала адрыўны штодзённы каляндар «Родны Край», тыражом 100.000.

Выдавецтва Полымя-настольны перакідны каляндар прысьвечаны 110-гадоваму юбілею ад дня нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа. Гэтаксама 100-тысячным тыражом.

Некалькі выдавецтваў выдалі календарыкі ў выглядзе паштовак і кішэнным памерам картак.

Асабліва трэба вітаць выхад новага календара «Беларускія абразы» у выдавецтве «Беларусь». Гэты, вялікага фармату перакідны насьценны каляндар, на 6-і лістох дае прыгожыя каляровыя адбіткі абразоў зь беларускіх цэркваў і манастыроў. Гэтак у календары рэпрадукаваныя абразы: Нараджэньне Хрыста (1746 г.) Латыгаўскага майстры; Грамніцы (1731 г.) Беларускай іканаграфічнай школы; Божая Маці Жыровіцкая (сярэдзіна 18-га ст.), Беларуская іканаграфічная школа; Уваскрошаньне — Зыйсьце ў пекла (сярэдзіна — другая палова 17-га ст.), беларуская школа; Узьнясеньне (1808 г.); Еўфрасіньня Полацкая (18-га ст.); Прэабражэньне (1648 г.); ды славутае Гальніцкае Нараджэньне Маці Боскае (1649 г.)

Пад абразамі надпісы ў трох мовах: па-беларуску, расейску й ангельску.

## 20-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

На пашыраным паседжаньні Галоўнае Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, якое адбылося 27 сьнежаня 1991 г., было пастаноўлена, у папярэдняй згодзе з галоўным кіраўніцтвам Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе, што чародная 20-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбудзецца сёлета **5-6-7 верасьня** ў ЗША у штаце Нью Джэрзі ў акрузе Нью Брансьюік-Гайленд Парк.

## ВЫДАТНАМУ БЕЛАРУСКАМУ СПАРТСМЭНУ — 60 ГОД



*Паўла Бурдзь з Чашай М.Т.Т.А. за 1991-1992 чэмпіянат.*

Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады вітае спадара Паўла Бурдзя, з Вініпэгу, Манітоба, выдатнага спартсмэна ў сталовым тэнісе, з 60-мі ўгодкамі ягонага жыцьця й жадае добрага здароўя й далейшых посьпехаў у любімым ягоным спорце.

Пазнаёміліся мы, Таронтаўцы са сп. Паўлам Бурдзям, ягоным братам Янам, ды пляменьніцай Люсі Ландры, на 2-ой Канфэрэнцыі Прадстаўнікоў Беларускага Грамадзтва Канады, якую ладзіў Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады 4-5 травеня, 1991 году ў Таронта, на якую прыбылі абыдва Бурдзі з Манітобы й Люсі Ландры з Альбэрты.

Спадар Паўла Бурдзь з маладых гадоў, яшчэ у ДП лягеры ў Остэргофэн, у Нямеччыне, у 1948-1949 годах, займаўся й шмат часу прысьвячаў спорту, а менавіта сталовому тэнісу. Належаў да спартовага клюбу YMCA у Amberg. Рэпрэзэнтаваў гэты клюб у спаборніцтвах сталовага тэнісу супраць ведамага Украінскага Спартовага Клюбу «Січ» з Рэгенсбургу.

Прыехаўшы ў 1953 годзе ў Канаду, у Вініпэг, П. Бурдзь пачаў браць удзел у мясцовых спаборніцтвах пінг-понгу. Украінскі Клюб І.Р.А.С. даведаўшыся аб посьпехах беларускага спартсмэна запрасіў Паўлу Бурдзя далучыцца да іх і яны зарганізавалі дружыну сталовага тэнісу. Вельмі хутка гэтая дружына здабыла правінцыяльны чэмпіянат на 1962-1963 сэзон.

Адначасна сп. П. Бурдзь асабіста браў удзел у розных мясцовых турнірах, ды гэтаксама ў ЗША. У Злучаных Штатах здабыў 1-ае мейсца ў Зімовым Фестывалі, у 1991 годзе ды у Pepsi North Dakota Open.

Калі Паўлу Бурдзю скончылася 40 год, ён іграў у групе старэйшых і за 20 год здабыў шмат узнагародаў. Апошнімі гадамі ён стаў капітанам клюбу CRESCENTWOOD COMMUNITY CLUB PLAYERS. Клюб гэты выйграў Manitoba Table Tenis Association (M.T.T.A.) чэмпіянат на 1990-1991 год. Паўла Бурдзь меў прыемнасьць прыймаць удзел у адкрыцьці новага 1992-1993 сэзону МТТА ды выйграць Чашу Сэньёраў, як падарунак сабе на дзень нарадзінаў.

Нашае пажаданьне Паважанаму Юбіляру — гэта заснаваць у Вініпэгу беларускі клюб сталовага тэнісу. Сабраць маладых людзей беларускага паходжаньня, навучыць іх гэтаму спорту й хай здабываюць чэмпіянаты на славу беларусаў у Канадзе. Гэта было-б Вашым найбольшым асягненьнем, спадар Бурдзь. Дыш шчасьці Вам Божа!

**Р. Жук-Грышкевіч**

## З ДАЛЁКАГА КАЗАХСТАНУ

**Ліст у рэдакцыю**

Хачу з вамі падзяліцца сваімі ўражаньнямі аб маім пабыце на Беларусі. Прывялі мяне туды службовыя справы ўсяго на адзін тыдзень. Час кароткі, а ўражаньняў шмат. Вельмі люблю я тыя мясцовасьці дзе я нарадзіўся, дзе жылі бацька й маці, дзе жывуць мае родзічы й цяпер. Аб гасьціннасьці беларусаў мы ўсе ведаем. Цябе й прытуляць і накормяць нават калі ты й незнаёмы.

У час майго пабыту я насамперш аддаў сыновую пашану бацьком — наведаў магілкі дзе яны пахаваныя у вёсцы Баранках, што на дарозе зь Берасьця ў Камянец, а далей у Белавескую Пушчу. Наведаў некаторыя вёскі й гарады — Баранавічы, Высока-Літоўск, Верхавічы, Радзевічы, Калінкавічы, Белава, Камянец, Відомля і інш.

Як там жывуць людзі? Той хто працуе, ды яшчэ мае сваю гаспадарку — дык жыве ня блага. Найцяжэй прыходзіцца хворым і старым пэнсыянерам, але й яны неяк даюць сябе рады. Маці майго кума зь Берасьця жыве у вёсцы Баранкі. Здароўе ў яе няважнае — хворыя ногі, цяжка хадзіць, але яна ні да кога ня хоча йсьці жыць, бо любіць быць незалежнай — любіць свой куточак, свой двор і хату. І гэта надае ёй сілы для жыцьця. Мне вельмі радасна стала, што я змог наведаць, пагаварыць зь ёй, а галоўнае узяў зь ёйных гутарак сілы й для сябе.

Вельмі іх турбуе небясьпека й няпэўнасьць ад Чарнобыльскай Атамнай Электрастанцыі, ды яшчэ й суседняй Ровенскай АЭС.

Ландшафт у нашай мясцовасьці вельмі зьмяніўся. У сувязі з асушэньнем балотаў вынішчана шмат лясоў, пралескаў і гаёў. Зьнікла шмат птушак. Буслоў стала значна меней, бо нестае кармоў. Самае страшное, што ў маленькіх вёсачках жывуць пераважна старыя людзі, а моладзь уцякае ў горад. А якія там прыгожыя вёскі. Якія там добрыя, зычлівыя людзі.

Пішу да вас ліст, а думка мая на нашай Беларусі. Мне зноў і зноў хочацца туды паехаць. Ёсьць думка й зусім туды пераехаць і дапамагаць тым, што самі сабе на даюць рады. Але як гэта зрабіць — адзін Бог ведае. Можа ён і дапаможа мне гэта зьдзейсьніць.

Мае найшчырэйшыя пажаданьні ўсім беларусам, нашым суродзічам. Дай вам Бог шчасьця. Думайце аб роднай Беларусі; няхай дзеці ейныя не забываюцца, што іх бацькі й дзяды нашчадкі той краіны, якая заслугоўвае лепшай долі.

**З пашанай Іван Самарай**
**Акцюбінск, Казахстан**

## СЕКСОТЫ Ў САЮЗЕ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

Ведамы беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў, як падала менская газэта «Знамя юности» (3.X.91) сказаў, што ў Саюзе пісьменьнікаў Беларусі палавіна сяброў — сексоты. (Цікава, што пяцітомавы «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (1977-84) слова «сексот» ня мае ў сабе.)

Калі ў Быкава папыталіся, на чым ён грунтуе сваё меркаваньне, пісьменьнік адказаў: «Жыцьцёвае дазнаньне». Заява Быкава мае сваё пацьверджаньне, піша «Знамя юности»: адзін з заснавальнікаў Нацыянальна-дэмакратычнае партыі Беларусі, паэт Алесь Емельянаў, расказаў нядаўна на старонках газэты «Свободные новости» аб спробах КДБ завэрбаваць яго ў «секретные сотрудники».

**Арганізацыя Славянскай Спадчыны
ў Амэрыцы ладзіць 2-га лютага 1992 году у 2:30 папаўдні**

***СЛАВЯНСКІ ФЭСТЫВАЛЬ***

у Цэнтры Лінкольна ў Нью-Ёрку
(Lincoln Center, Alice Tulley Hall)
Беларусаў у фэстывалі рэпрэзэнтуюць
шыраказнаныя беларускія артысты

***ВАЛЯНЦІНА ПАРХОМЕНКА***
***І***
***АЛЯКСАНДР КАЗАК***

*Цана білетаў: $20, 15 і 10 дал.*

## СЬВ. ПАМЯЦІ КАСТУСЬ ЧАБАТАР

Беларусы ў Заходняй Аўстраліі страцілі яшчэ аднаго сябру. 6-га лістапада 1991 году памёр у Альбані ў веку 81 году, Кастусь Чабатар, родам з Далятычаў, каля Наваградку.

Браў ён актыўны ўдзел у беларускім жыцьці на бацькаўшчыне, гэтак і на эміграцыі.

Нябожчык пакінуў па сабе двох сыноў, дачку і сямёра ўнукаў. Пахаваны ён на магілках у Альбані. Паніхіду адслужыў беларускі сьвятар а. Уладзімер Зайка.

Вечная яму памяць

**Сям'я, сябры й знаёмыя**

### СПАЧУВАНЬНЕ

Сябры музычнага гуртка «Дубіны» і танцавальная група «Васілёк» у Нью-Ёрку складаюць спачуваньні сям'і Клаўдзіі Пшыходзкай, сыну Ірку, сябру «Дубіноў» і дачцы Мар'ёлы, з прычыны раптоўнай сьмерці іх маці.

Клаўдзія Пшыходзкая нарадзілася ў в. Збуч, на Беласточчыне. Была актыўнай удзельніцай Гайнаўскага беларускага хору.

Памерла ў сьнежані 1991 году ў Гайнаўцы.

**Пятро Скепка**
**Алла Орса-Рамана**

### ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп. сп.: Ч. Найдзюк, Л. Шурак, А. Маркевіч, Я. Жучка, Ул. Бакуновіч, Вера Рамук, Я. Азарка.

## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

**Вера Рамук з Чыкага.** У справаздачы аб паломніцтве да Беларускага Крыжа ў прошчы Сьв. Мучанікаў у Мідлянд, у Канадзе, у нумары в 383 «Беларуса» за кастрычнік мінулага году, на 4-ай бачыне, ня былі успомненыя два цікавыя факты. Менавіта, што некаторыя беларускія пільгрымы з Чыкага былі апранутыя ў беларускую народную вопратку і несьлі назоў "Bielarus" у часе працэсьі да Сьв. Беларускага Крыжа Тысячагодзьдзя Хрысьціянства. Назоў "Bielarus" быў пастаўлены на падножжы крыжа, уверсе дэдыкацыйнай таблыцы падчас малітваў ары Крыжы.

**Алесь Клыбік (Менск).** Дзякуем за газэты. Ліст Ваш пераслалі Лаўрэну Клыбіку ў Бэльгію.

**М. Ленкавец з Ганкавіччыны.** Я зьяўляюся калекцыянерам газэт і зьвяртаюся да Вас з просьбаў дасылаць мне Вашую газэту. Вельмі добра што за межамі роднай Беларусі выходзіць беларуская газэта.

**Клаўдзія Патоцкая-Шышыгіна зь Нясьвіжу.** Цікаўлюся родам Радзівілаў, вывучаю гістарычныя й літаратурныя крыніцы. Магу стварыць суполку па вывучэньню гісторыі Радзівілаў, альбо таварыства прыхільнікаў Радзівілаў. Пісаць на адрас:

Рэспубліка Беларусь
222620 г. Нясвіж
вул. К. Лібкнехта 9, кв. 25
Патоцкай-Шышыгінай
Клаўдзіі

## ШУКАЮЦЬ СВАЯКОЎ

Унук Софіі Астроўскай, ураджэнскі вёскі Лучыцы, на Беларусі, каталічкі, якая эміґравала пад прозьвішчам Новік у 1912-14 гадох, Міхаіл Юліяновіч Новік запытвае інфармацыю аб ёй і ейных сынох Міхаілу і Антону ды іхных сваяках.

На Беларусі ў Софіі Астроўскай (Новік) застаўся сын — Юліян Новік, зь якім яна падтрымвала сувязь дапамагала яму. У 1962 годзе сувязь перапынілася.

Сыну Міхаіла Новіка, якому цяпер 27 гадоў, тэрмінова патрэбная мэдычная дапамога. Дыягназ захвораньня — лімфвобласны лейкоз, атака но. І, няпоўная клінікагэматалягічная рэмісія.

Адрас Новіка М. Ю.:
Рэспубліка Беларусь
220083 Менск
вул. Убарэвіча, 36-35
тэл. 41-67-63

Мікалай Лапіцкі шукае сваякоў Еўдакіі Шкляр-Лапіцкай.

Родная сястра майго бацькі Еўдакія Лявонаўна Шкляр-Лапіцкая, якая нарадзілася прыблізна у 1885 годзе ў сяле Прошчыцы, Слуцкага раёну на Меншчыне, паехала ў Злучаныя Штаты недзе ў 1912 годзе. Жыла яна ў Нью-Ёрку, у Брукліне. Памерла прыблізна ў 1964-65-х гадох. Пасьля гэтага усе сувязі парваліся. Ведама, што ў яе была дачка Вера і ўнучка Лінда, быў таксама і сын.



На здымку нашая цётка Еўдакія Лявонаўна Шкляр (Лапіцкая), яе дачка Вера і ўнучка Лінда. Фота зробленае ў 1946 годзе, тут Еўдакіі Шкляр 61 год.

Калі хто з родных ці знаёмых пазнае маіх блізкіх і дарагіх людзей, калі ласка, напішэце на адрас:

Рэспубліка Беларусь
220030 Менск
вул. Леніна, д. 2, кв. 33
праф. Якаву Л. Каламінскаму
(для Мікалая Лапіцкага)
Тэлефоны: у Менску
Мікалай Лапіцкі 62-74-88
Якаў Каламінскі 27-70-18
У Нью-Ёрку
Жанна і Майкл Волкіны 718-743-6695
У Гран-Рапідз, Мічыган
Мікола і Вера Прускія 616-942-0108

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Парафія Божай Маці Жыровіцкай, Гайлянд Прак, Н. Дж. ам. даляраў | 250.00 |
| У. Траскевіч | 100.00 |
| Л. і У. Брылеўскія | 100.00 |
| Б. Даніловіч | 100.00 |
| Л. Норык | 70.00 |
| І. Цупрык | 70.00 |
| В. Балтрушэвіч | 50.00 |
| А. Сільвановіч | 50.00 |
| ЗБАВ | 50.00 |
| А. Хрэноўскі | 43.00 |
| С. Д. Гурын | 40.00 |
| В. Пашкевіч | 40.00 |
| Я. Дзядовіч, у памяць дарагога мужа Дзьмітра | 30.00 |
| Я. Бурдзь | 30.00 |
| В. Гуцько | 30.00 |
| К. Шыкалюк | 30.00 |
| В. Такушэвіч | 30.00 |
| Я. Сапежынскі | 25.00 |
| Э. Пітушка | 25.00 |
| А. Завістовіч | 25.00 |
| А. Маркевіч | 25.00 |
| С. Гутырчык | 25.00 |
| Я. Азарка | 20.00 |
| А. Сапежынскі | 20.00 |
| а. В. Андрэюк | 20.00 |
| Ю. Азарка | 20.00 |
| С. Янкоўскі | 20.00 |
| Усяго | 1338.00 |

*Ад нашага прадстаўніка А. Стрэчаня:*

| | |
|---|---|
| К. Калоша | 160.00 |
| А. Стрэчань | 70.00 |
| Я. Каваленка | 60.00 |
| С. П. | 60.00 |
| М. Стрэчань | 50.00 |
| В. Яцэвіч | 50.00 |
| Т. Кананчук | 50.00 |
| А. Яраховіч | 45.00 |
| К. Маталыцкі | 40.00 |
| Я. Ханенка | 40.00 |
| В. Стрэчынь | 30.00 |
| П. Даўтон | 30.00 |
| С. Махахей | 35.00 |
| М. Страпко | 25.00 |
| Я. Раковіч | 25.00 |
| А. Сацэвіч | 25.00 |
| Сл. Карніловіч | 20.00 |
| Ю. Гасьцееў | 20.00 |
| В. Сяргіевіч | 20.00 |
| М. Лукашэвіч | 5.00 |
| Усяго | 820.00 |

*На выдавецкі фонд Беларуса прыслана беспасярэдня ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Прыход Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку | $250.00 |
| З. і В. Кіпель | 100.00 |
| К. Ворт | 100.00 |
| М. Баяроўскі | 90.00 |
| Я. Арцюх | 50.00 |
| А. і Н. Сільвановіч | 50.00 |
| С. Буткевіч | 50.00 |
| З. Стантон | 40.00 |
| Т. Бэрд | 25.00 |
| Б. Даніловіч | 25.00 |
| Л. Пітушка | 25.00 |
| Н. Кудасава | 25.00 |
| С. Карніловіч | 150.00 |
| К. Акула | 150.00 |
| | $1040.00 |

*Беларускае Аб'еднаньне ў Паўдзённай Аўстраліі*

| | |
|---|---|
| А. Ніжнік | аўстр. дал. 10.00 |
| М. Раецкі | 10.00 |
| А. Раецкі | 20.00 |
| В. Раецкі | 20.00 |
| М. Раецкі, малодшы | 50.00 |
| М. Мароз | 50.00 |
| А. Мароз | 50.00 |
| Др. А. Бразоўскі | 50.00 |
| | 260.00 |
| М. Зуй | 20.00 |
| Разам | аўстр. дал. 280.00 |

*Атрыманая ліста ахвярадаўцаў ад сп. М. Лужынскага:*

| | |
|---|---|
| В. Ліпскі | аўстр. дал. 50.00 |
| В. Русак | 50.00 |
| С. Нарушэвіч | 50.00 |
| А. Бакуновіч | 50.00 |
| М. Бакуновіч | 50.00 |
| А. Хаванская | 50.00 |
| Л. Грыцай | 50.00 |
| М. Сазановіч | 50.00 |
| М. Мілеўскі | 50.00 |
| А. Антух | 50.00 |
| Л. Парэцкі | 50.00 |
| С. Яраховіч | 50.00 |
| К. Сіткоўскі | 50.00 |
| У. Радзевіч | 50.00 |
| В. Стукач | 50.00 |
| Я. Гавенчык | 40.00 |
| Разам | аўстр. дал. 790.00 |

# АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНІМ'у

| | |
|---|---|
| Прыход Сьвятое Маці Жыровіцкае Кліўленд | ам. дал. 3000.00 |
| М. і В. Пашкевічы | 100.00 |
| Р. Пухоўскі | 100.00 |
| Падпісная ліста ахвярадаўцаў, прысланая сп. Міхасём Лужынскім: | аўстр. дал. |
| Беларускі Культурна-Грамадзкі Клюб | 800.00 |
| М. Лужынскі | 200.00 |
| В. Ліпскі | 200.00 |
| Я. Шкода | 50.00 |
| В. Кобрын | 50.00 |
| Г. Падгайская | 100.00 |
| С. Шаўцоў | 50.00 |
| М. Мілеўскі | 100.00 |
| М. Антух | 50.00 |
| М. Бакуновіч | 50.00 |
| Н. Ярашук | 70.00 |
| Ю. Максюль | 100.00 |
| Э. і Л. Парэцкія | 100.00 |
| В. Русак | 50.00 |
| Л. Хіцяк | 50.00 |
| М. Сазановіч | 50.00 |
| М. Зуй | 20.00 |
| А. Руткевіч | 20.00 |
| А. Бакуновіч | 50.00 |
| М. Ціхан | 20.00 |
| а. І. Хлебіч | 20.00 |
| К. Украінец | 20.00 |
| А. Шудра | 20.00 |
| А. Якубоўскі | 10.00 |
| І. Супрунчык | 20.00 |
| М. Боксіц | 10.00 |
| Е. Падгайскі | 20.00 |
| А. Хаванская | 20.00 |
| К. Сіткоўскі | 50.00 |
| Л. Бакуновіч | 50.00 |
| В. Стукач | 50.00 |
| Разам: | аўстралійскіх дал. 2470.00 |

| | |
|---|---|
| прысланая сп. Міколам Скабеем: | аўстр. дал. |
| М. Скабей | 150.00 |
| О. і А. Кукель | 100.00 |
| А. Груша | 50.00 |
| В. Карп | 10.00 |
| В. Русак | 10.00 |
| М. Тэрэшкевіч | 10.00 |
| В. Русак | 20.00 |
| З. Кадняк | 10.00 |
| Я. Стасевіч | 50.00 |
| А. Грынько | 50.00 |
| М. Нікан | 20.00 |
| Г. Міхалюк | 40.00 |
| У. Сідлярэвіч | 50.00 |
| У. Шнэк | 10.00 |
| Я. Валенціўнак | 10.00 |
| Ф. Корбут | 10.00 |
| а. Грыцук | 5.00 |
| В. і Г. Шэйпак | 50.00 |
| Разам: | аўстралійскіх дал. 715.00 |